# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Субота, 3 снежня 1994 года | № 130 (10830) | Цана 80 руб.


## Прэзідэнт цэніць прафесіяналаў

На сесіі Магілёўскага абласнога Савета была падтрымана прапанаваная Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам кандыдатура Аляксандра Кулічкова на пасаду старшыні абласнога выканаўчага камітэта. Яго добра ведаюць на Магілёўшчыне. Ён працаваў генеральным дырэктарам аб'яднання «Бабруйскдрэў», намеснікам старшыні аблвыканкома, а цяпер — народны дэпутат, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета па прамысловасці і паслугах насельніцтву.

На рэдкасць аднадушна ўспрынялі дэпутаты абласнога Савета на праведзенай у Гомелі нечарговай сесіі прапанаваную Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам кандыдатуру Паўла Шыпука на пасаду старшыні абласнога выканаўчага камітэта.

Пасля непрацяглага абмеркавання Павел Шыпук быў выбраны аднагалосна. Як адзначыў у сваім выступленні Аляксандр Лукашэнка, новаму «губернатару» дасталіся даволі нялёгкія абавязкі. Гомельшчына сёння «лідзіруе» па абвальнаму спаду прамысловай вытворчасці, ніжэйшыя, чым сярэднерэспубліканскія, паказчыкі і ў сельскай гаспадарцы. Плюс да ўсяго — чарнобыльскія праблемы.

Выхад з крытычнай сітуацыі прэзідэнт бачыць у падборы высокапрафесійных кадраў, а не ў мітынговых страсцях, якія бударажаць народ. Гэтым якасцям, паводле яго слоў, у поўнай меры адпавядае новы кіраўнік адміністрацыі Гомельшчыны.

Усё працоўнае жыццё Паўла Шыпука звязана з мясцовым шклозаводам, які стаў у апошні час акцыянерным таварыствам. Узначальваючы гэтае вядомае ў рэспубліцы прадпрыемства па вытворчасці шкла і пасуды, ён змог нават пры цяперашняй вельмі складанай эканамічнай сітуацыі пасяхова весці рэканструкцыю і дабівацца дастаткова стабільнай работы калектыву. Яго крэда — менш слоў, а больш справы.

На сесіі выступіў Павел Шыпук. Падзякаваўшы за давер, ён назваў шэраг прычын узнікшай нялёгкай сітуацыі. Адна з іх, на яго думку, заключаецца ў тым, што пры ўсіх аб'ектыўных складанасцях 50 працэнтаў прамысловага патэнцыялу ў вобласці не выкарыстоўваецца па віне саміх кіраўнікоў і працоўных калектываў.

У другой палове дня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка прыняў удзел у рабоце сесіі Гомельскага гарадскога Савета дэпутатаў.

*БЕЛІНФАРМ.*

## Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

### Аб дапаўненні саставу №227 Рэспубліканскай камісіі па святкаванню 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне

Уключыць у састаў Рэспубліканскай камісіі па святкаванню 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне, утворанай Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 8 лістапада 1994 г. № 199 (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь,1 994 г., № 10, арт. 249), Новікава Анатоля Мікалаевіча — старшыню Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю (з яго згоды) і Цішкевіча Альфонса Ільіча — старшыню Мінскага аблвыканкома.

*Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь*
*А.ЛУКАШЭНКА*

28 лістапада 1994 г., г. Мінск.

## Рэабілітацыі не падлягаюць

***Саюз афіцэраў Рэспублікі Беларусь, Савет ветэранаў партызанскага руху і падполля Мінскай вобласці, секцыя ветэранаў вайны Савета ветэранаў г.Мінска звярнуліся з адкрытым пісьмом да прэзідэнта, Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў з адкрытым пісьмом.***

У ім выказана прынцыповая нязгода з тымі, хто імкнецца рэабілітаваць былых вайскоўцаў Арміі Краёвай і надаць ім статус ветэрана Вялікай Айчыннай вайны. У пісьме гаворыцца: "Карыстаючыся тым, што да апошняга часу пытанне аб дзейнасці АК на тэрыторыі рэспублікі па шэрагу прычын не асвятлялася беларускімі гісторыкамі, а многіх сведак тых падзей ужо няма ў жывых, прыхільнікі рэабілітацыі Арміі Краёвай са старонак перыядычнага друку энергічна навязваюць чытачам далёкі ад рэчаіснасці вобраз АК..." Між тым, на сумленні Арміі Краёвай кроў беларускіх партызан, іх родных і блізкіх, байцоў Чырвонай Арміі, праваслаўных святароў. Армія Краёва, сцвярджаецца ў пісьме, была антыбеларускай ваеннай арганізацыяй.

Акаўскія фарміраванні, раздзяліўшыся на невялікія ўзброеныя групкі, дзейнічалі на тэрыторыі нашай рэспублікі аж да 1953—55 гадоў. Рабілі бандыцкія налёты на населеныя пункты, рабавалі сялян, расстрэльвалі кіраўнікоў, сельскіх актывістаў.

Таму, гаворыцца далей у адкрытым лісце, рэабілітаваць акаўцаў, надаць ім статус ветэрана Вялікай Айчыннай вайны — значыць "здрадзіць перад гістарычнай памяццю шматпакутнага беларускага народа".

І ў заключэнне хацелася б прывесці такі факт: фарміраванні Арміі Краёвай акрамя Беларусі дзейнічалі і на тэрыторыі суседніх Украіны і Літвы. Гэтыя рэспублікі адмовіліся прызнаць іх законнымі.

ФАКТЫ ● ПАДЗЕІ ● АРГУМЕНТЫ ● МЕРКАВАННІ

■ Сацыяльны ракурс

## КАРАМЕЛІ ЗАЎЖДЫ СМАЧНА ЕЛІ

### А цяпер толькі Івянецкая кандытарская фабрыка выпускае звыш 30 назваў цукерак. Яшчэ смачнейшых

**Створана фабрыка ў 1976 годзе на базе былога кансервавага завода. На парозе недалёкага дваццацігоддзя можна гаварыць аб пэўных здабытках і поспехах. Нават і цяпер, калі большасць прадпрыемстваў скарачаюць магутнасці і кадры, яна пашырае іх. Да канца года ўступіць у строй яе другая чарга. Ужо ўстаноўлены чатыры тэхналагічныя лініі па выпуску карамелі. Адкрыюцца 150 рабочых месц. А да канца 1995 года ў 1,5 раза павінен узрасці аб"ём прадукцыі.**

Для параўнання: ў першы год існавання выпушчана 800 тон кандытарскіх вырабаў. Сёлета дадуць іх прыкладна 4.000. Да цукерак "Сметанковая памадка", "Кароўка", усходніх салодкасцей "Казінакі" далучаюцца ўсё новыя віды. У ход ідуць такія нетрадыцыйныя для івянецкіх кандытараў дабаўкі, як чарнічны сок, льносемя, арэхі, яблычнае пюрэ. А на прылаўках магазінаў з"яўляюцца цукеркі "Марскія каменьчыкі", дражэ "Бадзёрасць", карамелі "Рабінка", "Чабарок", "Мурзілка", "Рабінавы цвет" і шэраг іншых — на патоку каля 30-ці назваў цукерак з рознай начынкай.

Але не толькі пра вытворчыя паказчыкі дбае кіраўніцтва народнага прадпрыемства. Думаюць тут, як і чым папоўніць сямейны бюджэт кожнага працуючага. Не так даўно выдалі па 50 тысяч рублёў на набыццё гародніны. Тым, хто адпрацаваў на фабрыцы дзесяць і больш гадоў і пайшоў на пенсію, — а іх набралася 43 чалавекі, кожны месяц дадаткова да асноўнай выплачваецца і фабрычная пенсія. Яшчэ нядаўна пасля дасягнення работнікам пенсіённага ўзросту яму выдавалі аднаразовую дапамогу ў размеры 20 тысяч рублёў. Зразумела, гэта сума пастаянна карэкціруецца. Мінімальную заработную плату выплачваюць членам свайго калектыву пры ўступленні ў шлюб, пэўныя сумы — пры прызыве на службу ў армію і пры вяртанні.

У магазіне, які працуе на фабрыцы, можна набыць не толькі прадукты харчавання ці прамысловыя тавары, але і складаную бытавую тэхніку па цэнах значна таннейшых, чым у дзяржаўным гандлі — тавары атрымліваюць па бартэру. Плануецца адкрыццё сеткі фірменных магазінаў у населеных пунктах не толькі Валожынскага раёна.

Не першы год фабрыка заключае дагавор аб шэфскай дапамозе з суседнім калгасам "Радзіма". Узамен гаспадарка выдзяляе прадпрыемству 30 гектараў зямлі. Для яе апрацоўкі набылі саджалкі, капалкі, трактары, іншы сельскагаспадарчы інвентар. У рабочых цяпер ёсць гарантаваныя соткі. Бульбу садзяць і апрацоўваюць арганізавана, і галоўнае — бясплатна для ўсіх.

У адказ застаецца толькі самім працаваць бездакорна. А такіх працаўнікоў на фабрыцы большасць. Гэта карамельшчыцы І.І.Булакевіч, А.І.Жалток, П.У.Курдун, цукерачніцы Н.В.Нядвецкая, М.Ф.Адамовіч і многія іншыя.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*
*Валожынскі раён.*

■ Парламент: дзень за днём

## На парадку дня сесіі — дадатковыя пункты

Вельмі важным і дэмакратычным назваў прыняты Вярхоўным Саветам Беларусі Закон «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь »Аб выбарах дэпутатаў Рэспублікі Беларусь" спікер парламента Мечаслаў Грыб. Работа над гэтым вельмі цяжкім законапраектам працягвалася амаль год. Кіраўнік парламента выказаў упэўненасць, што новы закон «дасць магчымасць усім грамадзянам і ўсім партыям вылучаць кандыдатаў у дэпутаты па выбарчых акругах». У адпаведнасці з Канстытуцыяй прыняты закон павінен быць на працягу дзесяці дзён падпісаны Прэзідэнтам Беларусі. Ён уступае ў дзеянне з дня апублікавання. Пытанне аб даце выбараў будучага саставу Вярхоўнага Савета пакуль не вырашана. Калі яно будзе дадаткова ўнесена ў парадак дня бягучай сесіі, то да абмеркавання даты выбараў дэпутаты хутчэй за ўсё вернуцца пасля чарговага двухтыднёвага перапынку.

Міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч і старшыня парламенцкай Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Ніл Гілевіч прадставілі на разгляд сесіі законапраект «Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь», які быў потым прыняты ў першым чытанні. Дакумент вызначае прававыя, эканамічныя, сацыяльныя, арганізацыйныя асновы бібліятэчнай справы і гарантуе кожнаму грамадзяніну права на свабодны доступ да духоўных каштоўнасцей, рэгулюе ўзаемаадносіны бібліятэк з дзяржавай.

Старшыня Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву Уладзімір Леўчык прадставіў законапраект «Аб Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь». Ён падкрэсліў важнасць гэтага закона, які датычыць дзейнасці адной з трох галін улады. Згодна з яго нормамі будзе ажыццяўляць сваю дзейнасць Вярхоўны Савет новага склікання. У дакуменце абазначаны парадак разгляду і прыняцця законапраектаў, пытанні, якія адносяцца да кампетэнцыі Вярхоўнага Савета, кантрольныя паўнамоцтвы вышэйшага заканадаўчага органа, правы і абавязкі дэпутатаў.

У ходзе дыскусіі дэпутаты прызналі неабходнасць прыняцця данага закона. У той жа час былі адзначаны і некаторыя недапрацоўкі праекта. Так, паводле слоў Віктара Піскарова, у дакуменце павінны быць больш дакладна вызначаны механізм рэалізацыі палажэнняў Канстытуцыі аб Вярхоўным Савеце, узаемадзеянне вышэйшага заканадаўчага органа з прадстаўнічымі ўладамі на месцах, сістэма кантролю за прынятымі законамі.

Самыя крытычныя адносіны да законапраекта былі ў дэпутата Дзмітрыя Булахава. Ён назваў разглядаемы дакумент «штучнай кампіляцыяй норм розных сённяшніх законаў». Старшыня Камісіі па заканадаўству сказаў, што ён не супраць самога закона, але супраць яго канцэпцыі, і прапанаваў у першым чытанні дакумент не прымаць.

Аднак іншыя парламентарыі не падтрымалі гэтую думку. А Уладзімір Леўчык, які выступіў з заключным словам, прызнаў, што «...праект у пэўнай меры палітызаваны, адсюль і роскід думак». Ён папрасіў ад імя Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву прыняць закон у першым чытанні, паабяцаўшы, што камісія гатова ў сціслыя тэрміны ўдасканаліць праект закона.

Узяў слова перад галасаваннем і спікер парламента. Мечаслаў Грыб прызнаў, што Вярхоўны Савет спазніўся з прыняццем гэтага закона, але заўважыў, што «памылку трэба выпраўляць». 202 дэпутаты прагаласавалі за прыняцце закона ў першым чытанні.

Наступным у парадку дня стаяў Закон «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь». Аднак парламентарыі палічылі неэтычным разглядаць яго ў адсутнасць Аляксандра Лукашэнкі і таму вырашылі адкласці абмеркаванне законапраекта.

Быў заслуханы законапраект «Аб статусе Герояў Савецкага Саюза, Герояў Сацыялістычнай Працы, поўных кавалераў ордэнаў Славы, Працоўнай Славы». Дакумент вызначае статус указаных катэгорый грамадзян, устанаўлівае іх правы і льготы. Пасля непрацяглай дыскусіі праект быў прыняты ў першым чытанні.

А вось спроба дэпутатаў унесці змяненні і дапаўненні ў Закон аб пенсіённым забеспячэнні ваеннаслужачых тэрміновай службы аказалася непаспяховай. Леанід Прывалаў прапанаваў дапоўніць дзеючае заканадаўства нормай, якая дае магчымасць у выпадку гібелі салдата пры выкананні службовых абавязкаў выплачваць бацькам штомесяц тры мінімальныя зарплаты кожнаму. Аднак у ходзе абмеркавання ўзнікла мноства дадатковых пытанняў. Напрыклад, калі прычынай гібелі ваеннаслужачага стала канкрэтная службовая асоба, то хто павінен аплачваць кампенсацыю: віноўнік або дзяржава? Або што рабіць з бацькамі, чые сыны здаровымі пайшлі служыць у армію, а потым пазбавіліся жыцця ў сувязі з захворваннем? Не знайшоўшы адказаў на гэтыя і іншыя пытанні, дэпутаты вырашылі адкласці слуханне данага праекта.

Старшыня Камісіі па пытаннях экалогіі і рацыянальнага выкарыстання прыродных рэсурсаў Барыс Савіцкі прапанаваў шэраг змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку за карыстанне прыроднымі рэсурсамі (экалагічны падатак)», большасць з якіх была адобрана парламентам.

Дэпутаты ўнеслі ў парадак дня сесіі яшчэ дадатковыя пункты: «Аб назначэнні даты выбараў у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь» і «Аб індэксацыі крэдытаў, атрыманых грамадзянамі Рэспублікі Беларусь ва ўмовах інфляцыі ў 1992—1994 гадах».

Затым слова было дадзена старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рыгору Кісялю. Падставай для гэтага выступлення сталі запыты дэпутатаў аб парушэнні пастановы Вярхоўнага Савета, якая ўстанаўлівае парадак асвятлення работы парламента. Рыгор Кісель прызнаў, што такія парушэнні мелі месца. У той жа час ён растлумачыў прычыну невыканання пастановы Вярхоўнага Савета фінансавымі, тэхнічнымі і творчымі праблемамі.

Абмеркаванню законапраекта «Аб судовай будове і статусе суддзяў у Рэспубліцы Беларусь» дэпутаты прысвяцілі наступнае пасяджэнне. Старшыня Камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў, апярэджваючы дыскусію, заўважыў, што гэта адзін з законаў, які завяршае ўзвядзенне фундаменту прававога грамадства. Камісія працавала над гэтым дакументам амаль тры гады і ўдзяліла яму шмат увагі.

Найбольшая спрэчка ўзнікла вакол двух палажэнняў законапраекта — ці патрэбны нашай судовай справе інстытут прысяжных засядацеляў і якім можа быць мінімальны ўзрост суддзі па адміністрацыйных справах?

Супраць прысяжных засядацеляў выступіў дэпутат Віктар Піскароў. Два асноўныя яго аргументы зводзіліся да наступнага: першы — прысяжныя засядацелі будуць выносіць свой вердыкт у асноўным пад уплывам эмоцый, другі — у рэспубліцы шмат прафесійных юрыстаў. Падтрымаў калегу і дэпутат Алег Трусаў. Успамінаючы гісторыю савецкага заканадаўства, парламентарый напомніў аб судовых «двойках» і «тройках», таварыскіх судах, народных засядацелях... На думку Алега Трусава, тыя ж прысяжныя засядацелі ў цяперашніх умовахператворацца ў звычайных народных засядацеляў.

Адказваючы ім, Дзмітрый Булахаў прызнаў, што інстытут прысяжных засядацеляў — даволі спрэчная справа. Аднак ён упісваецца ў рэчышча прававых рэформ, якія парламент ужо адобрыў. На думку старшыні камісіі, такіх спраў у год набярэцца не больш чым два дзесяткі. «І пачынаць калі-небудзь пераход да практычнай справы трэба», — заўважыў Дзмітрый Булахаў. За выключэнне інстытута прысяжных засядацеляў прагаласавала 109 дэпутатаў. Дарэчы, спікер парламента пасля гэтага заўважыў, што ён сам доўгі час быў праціўнікам прысяжных засядацеляў. Аднак пасля вывучэння вопыту замежных краін, доўгіх разваг Мечаслаў Грыб прыйшоў да вываду, што «гэтая справа можа даць нават карысць».

Нямала коп'яў было зламана і ў час дыскусій аб узросце суддзі па адміністрацыйных справах. У праекце камісіі «ніжняя планка» ўстанаўлівалася на рысе 21 год. Многія дэпутаты палічылі, што гэты ўзрост вельмі юны для вынясення судовага рашэння, і прапанавалі павялічыць мінімальны ўзрост хоць бы да 23 гадоў. Абедзве прапановы былі пастаўлены на галасаванне і абедзве атрымалі неабходную колькасць галасоў для іх прыняцця.

*БЕЛІНФАРМ.*

## ГАРЫМ, БРАТКІ, ГАРЫМ...

Пачала работу чарговая сесія Мінскага гарадскога Савета. У парадку дня — актуальныя праблемы жыццезабеспячэння і далейшага развіцця сталіцы.

Разгледжана пытанне аб дзяржаўным вытворчым канцэрне «Мінскбуд», заслухана справаздача пастаяннай камісіі па справах моладзі, сфарміравана экспертная камісія па вызначэнню мэтазгоднасці будаўніцтва новых і пашырэння існуючых прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый горадаўтваральнай групы.

Прынята палажэнне па папярэджванню надзвычайных сітуацый, якія звязаны з пажарамі ў Мінску. Як паведаміў намеснік начальніка гарадской пажарнай службы В.Карпіцкі, за 10 год колькасць пажараў узрасла ў 8 разоў, а ўрон, прычынены пажарамі, — у 30 разоў. Штодзень у сталіцы здараецца ў сярэднім 10 пажараў. Супрацьпажарная гаспадарка горада неймаверна зношаная і патрабуе тэрміновага абнаўлення. Між тым бюджэт прадугледжвае толькі фінансаванне камунальных плацяжоў і зарплаты.

Сесія таксама прыняла шэраг дапаўненняў у ранейшыя рашэнні Мінгарсавета, разгледзела пратэсты пракурора г. Мінска на некаторыя рашэнні, якія супярэчылі дзеючаму заканадаўству.

Сесія працягвае сваю работу.



### «Сараева: жыццё пад агнём»

Дэманстрацыя фільмаў пад такой назвай праходзіць у Мінску. Дакументальныя відэафільмы, рэпартажы, анімацыйныя стужкі расказваюць пра падзеі, якія, на думку многіх, могуць стаць пачаткам трэцяй сусветнай вайны. Той, хто наведае Дом літаратара, зможа ўбачыць югаслаўскую вайну вачамі баснійскіх сербаў, а таксама вачамі журналістаў з ЗША, Швейцарыі і іншых краін. Акрамя таго, будзе магчымасць прыняць удзел у дыскусіях пасля прагляду на прэс-канферэнцыі членаў кінагрупы з Сараева і арганізатараў гэтага цікавага мерапрыемства.

*Марына ЛАЗУКА.*

## Крымінал-тэлетайп з Маладзечна

### ТРАГЕДЫЯ НА ПРАСПЕКЦЕ

Муж, жонка і іх шасцігадовы сын перасякалі праспект Вялікі Гасцінец у неўстаноўленым месцы і былі збіты легкавым аўтамабілем. Вадзіцель, які зрабіў наезд, з месца здарэння знік. Паддацца волі эмоцый было ад чаго: ніводзін з траўміраваных пешаходаў не выжыў.

Як высветлілася ў ходзе расследавання, віноўнікам аварыі аказаўся супрацоўнік Маладзечанскага гаррайаддзела ўнутраных спраў. Ён арыштаваны. Следства па справе вядзе маладзечанская пракуратура.

### 15-ГАДОВЫ РЭКЕЦІР

Паспрабаваць сябе ў галіне злачыннага бізнесу вырашыў пятнаццацігадовы навучэнец аднаго з прафтэхвучылішчаў горада Маладзечна. Завабіўшы ў лес дзвюх малалетніх дзяўчынак, ён адну з іх адправіў дамоў, загадаўшы прынесці выкуп за сяброўку (вядома, у доларах). Маці пацярпеўшай, да якой тая звярнулася, праз лічаныя хвіліны дабегла да лесу і ўжо да прыезду міліцыі круціла чуб «рэкеціру».

### ПРЫГАВОРАНЫ ДА РАССТРЭЛУ

Днямі Мінскі абласны суд прыгаварыў да вышэйшай меры пакарання 20-гадовага маладзечанца Г., прызнанага вінаватым у забойстве.

Інвалід другой групы Г. зайшоў у кватэру да непаўналетняй А. і без усякай прычыны накінуўся на яе з нажом. Пасля садысцкага нападу А. памерла.

Абласны суд прызнаў грамадзяніна Г. вінаватым і здольным адказваць за свае ўчынкі.

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

## РАБОТА Ў РАДАСЦЬ

Нядаўна пашчасціла пазнаёміцца з людзьмі, якія не забыліся на прыгожую і шчырую вясковую ўсмешку. Маўляў, хоць і цяжка, але ж работа ў радасць. А калі на душы весялей, то і працуецца лягчэй. Менавіта такі вывад зрабілі нашы субяседнікі — рабочыя комплексу па адкорму буйной рагатай жывёлы калгаса "Вішнёўка" Мінскага раёна.

— Сюды пераехала ў 1991 годзе з Магілёўскай вобласці, — зазначае Святлана Георгіеўна Міроненка, якая разам з сяброўкай Палінай Сільвестраўнай Вітушка даглядае 360 цялят да шасцімесячнага ўзросту. — З наседжанага гнязда пагнала праклятая радыяцыя. Хоць і шкада было родных мясцін, але ж здароўе даражэйшае. Тут я сустрэла шмат цудоўных людзей, адчула іх цеплыню і пяшчоту. Ды і калгас дапамагае. Ведаю, у некаторых гаспадарках існуе праблема з выплатай заробку. У нас такога няма.

— Жывёла часта хварэе, — далучаецца да размовы ветурач комплексу Пётр Іванавіч Карняленя. — Цяпер, як на тое ліха, з"явілася многа новых вірусных хвароб, а медыкаменты — вялікі дэфіцыт. Балазе падтрымліваем цесныя сувязі з Віцебскай акадэміяй ветэрынарнай медыцыны. Па магчымасці яны дапамагаюць нам.

— Комплекс быў запушчаны ў эксплуатацыю ў 1987 годзе, — гаворыць яго кіраўнік Сцяпан Міхайлавіч Гамолка. — Маладняк закупляем у калгасаў і саўгасаў раёна і вобласці, а таксама ў насельніцтва. Цяпер у нас 3.600 галоў жывёлы. На комплексе працуе 60 чалавек. Усе добрасумленна ставяцца да справы, заслугоўваюць самых цёплых слоў.

*Юрый ЛОЙКА.*

НА ЗДЫМКАХ: ветурач комплексу **П.І.Карняленя;** сяброўкі па працы **С.Г.Міроненка** і **П.С.Вітушка.**

*Фота Аляксандра РУЖЭЧКІ.*

■ Выстаўкі

# Аграрная адукацыя — і вучоба, і праца

*Перакладаючы на стыль мовы часоў не надта аддаленых, гэтую акцыю можна было б назваць проста і лаканічна: "Выстаўка дасягненняў у аграрнай адукацыі". Сапраўды, сабраныя пад дахам, бадай, самай вялікай залы Беларускага завочнага сельскагаспадарчага тэхнікума экспанаты даволі шырока і наглядна адлюстроўваюць стан вучэбна-метадычнай, навукова-даследчай і доследнай работы ў аграрных навучальных установах.*

У нашай рэспубліцы 4 вышэйшыя навучальныя ўстановы і 30 тэхнікумаў сельскагаспадарчага профілю. У экспазіцыю выстаўкі трапілі, безумоўна, лепшыя, але так ці інакш прадстаўлены на ёй усе вучэбныя калектывы.

— Структура выстаўкі скампанавана з дзесяці раздзелаў, — расказвае начальнік упраўлення ВНУ і тэхнікумаў Глаўка аграрнай адукацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі Л.І.Шумская. — Цікавы, на мой погляд, кожны з іх: агульнай характарыстыкі сістэмы навучання, раздзелы, якія датычаць спецыяльнай падрыхтоўкі, (заатэхнія, аграномія, эканоміка і г.д.), а таксама раздзелы, дзе адлюстраваны працэс агульнаадукацыйнай і гуманітарнай адукацыі, навукова-даследчай і доследнай работы.

Чаму менавіта Смілавічы выбраны месцам правядзення выстаўкі? Па-першае, гэтаму спрыяе вучэбна-матэрыяльная база і творчая атмасфера Беларускага завочнага сельскагаспадарчага тэхнікума. Па-другое, спецыялісты Глаўка і кіраўніцтва тэхнікума напрацавалі сумесны вопыт арганізацыі такіх мерапрыемстваў. А сёлетняя выстаўка да таго ж прымеркавана да маючай адбыцца тут міністэрскай нарады па праблемах падрыхтоўкі кадраў.

У чым карысць выстаўкі? На гэтае пытанне я папрасіў адказаць першага прарэктара БСГА А.Р.Цыганова:

— Бясспрэчна, выстаўка патрэбна. Тут мы даведваемся аб вопыце іншых ВНУ і тэхнікумаў. Гэта асабліва важна цяпер, калі кантакты з Расіяй і Украінай рэзка парушыліся, і трэба хаця б унутры сваёй сістэмы ведаць, дзе ёсць што лепшае.

А вось думка прарэктара БАТУ па навукова-даследчай рабоце Г.Ф.Добыша:

— Мы часам не ведаем, што робіцца на суседняй кафедры, а тым больш у іншай навучальнай установе. А на выстаўцы вопыт вучэбна-метадычнай і навукова-даследчай работы прадстаўлены больш-менш поўна. Вядома, пэўныя выдаткі ёсць, бо немагчыма прывезці сюды цэлую сельгасмашыну ці выставіць поўнасцю навуковую работу. Тым не менш, аб адрасах вопыту тут мы маем магчымасць даведацца.

Выстаўка працуе ўжо некалькі тыдняў, а завершыцца ў сярэдзіне снежня. Лепшыя калектывы навучальных устаноў будуць заахвочаны маральна і матэрыяльна.

*Мікалай КАРОЛЬ.*






**На здымках:** група ўдзельнікаў і арганізатараў выстаўкі (злева направа) **Л.І.Шумская, Д.С.Лопух** (Глаўк МСГ РБ), **Р.І.Зелянкоўская** (БАТУ), **Н.І.Чарнавусава** (Навапольскі тэхнікум), **Ж.М.Марушкевіч** (Чырвонабярэжскі тэхнікум), **В.І.Неўдах** (БСГА); ёсць чым абмяняцца ў час сустрэчы **А.Р.Цыганову, А.Л.Кірэеву** (БСГА) і **Г.Ф.Добышу** (БАТУ).

*Фота Анатоля БАСАВА.*

■ Сёння — Сусветны дзень інвалідаў

# "ГЕФЕСТ"

## не толькі мышцы мацуе, а і душу саграваe

**З трэнажорнай залы даносілася лязганне спартыўных снарадаў, а за дзвярыма суседняга пакоя чуўся перастук пішучай машынкі. У спартыўнай зале ішла чарговая трэніроўка аматараў атлетычнай гімнастыкі. А побач старшыня фізкультурна-спартыўнага клуба інвалідаў Андрэй Баранчук (дарэчы, сам інвалід з дзяцінства) друкаваў чарговае пісьмо. З просьбай аказаць клубу фінансавую падтрымку. На гэты раз яно адрасавалася кіраўніку мясцовага аддзялення аднаго з банкаў.**

— Існуём выключна на добраахвотныя адлічэнні спонсараў. Таму і даводзіцца выпрошваць грошы, — тлумачыць мне Андрэй Віктаравіч. — На рахунку засталося ўсяго 20 тысяч рублёў, а грошы патрэбны і на аплату трэнерам, і на спартыўны інвентар. Вось і звяртаемся па дапамогу да добрых людзей. Гарвыканком ужо адгукнуўся, паабяцаў пералічыць 450 тысяч рублёў, згаджаюцца дапамагчы і іншыя спонсары.

Барысаўскі фізкультурна-спартыўны клуб інвалідаў "Гефест" дзейнічае тры гады. Ён мае статус грамадскай арганізацыі і аб'ядноўвае каля сямі дзесяткаў інвалідаў з парушэннем або пашкоджаннем апорна-рухальнага апарату. Арганізавана работа секцый па ўсіх відах, уключаных у каляндар інваліднага спорту рэспублікі: плаванню, цяжкай атлетыцы, кулявой стральбе, настольнаму тэнісу, сядзячаму валейболу, шашках і шахматах.

Па выніках мінулага года "Гефест" прызнаны лепшым клубам у рэспубліцы. І сёлета яго прадстаўнікі дабіліся добрых спартыўных вынікаў не толькі на абласных, а і на рэспубліканскіх спаборніцтвах. На чэмпіянаце Беларусі інваліды-спартсмены з Барысава занялі другое агульнакаманднае месца па плаванню і лёгкай атлетыцы, сталі трэцімі прызёрамі ў настольным тэнісе. А адзін з найбольш актыўных членаў праўлення клуба — Валерый Румянцаў, які адказвае за падрыхтоўку каманды па лёгкай атлетыцы, нават быў удастоены права абараняць гонар нашай рэспублікі ў Міжнародным марафоне інвалідаў-калясачнікаў. Другі барысаўчанін Ігар Праскурын прызнаны лепшым плыўцом рэспублікі сярод інвалідаў. Ён удзельнічаў у першынстве свету па плаванню на Мальце.

У свае "пенаты" клуб інвалідаў засяліўся некалькі месяцаў назад. Гарвыканком выдзеліў для яго падвальнае памяшканне ў адным з жылых дамоў па вуліцы Гагарына. Агульнай плошчай 240 квадратных метраў. Былому старшыні клуба Васілю Марозу давялося прыкласці шмат намаганняў, каб абсталяваць трэнажорную залу, памяшканне для гульні ў настольны тэніс, раздзявалкі, санвузел і іншыя падсобкі.

Не абышлося, вядома, без дапамогі прадпрыемстваў горада ў набыцці будаўнічых матэрыялаў. Калектыў макароннай фабрыкі выдзеліў сродкі на пакупку камплекту сучасных трэнажораў. Будаўнікі, якія рабілі рамонт падвальнага памяшкання, змайстравалі тры тэнісныя сталы.

Дарэчы, кіраўніцтва гарадскога Дома спорту дазваляе інвалідам бясплатна карыстацца не толькі дарожкамі плавальнага басейна, а і саунай. Аматары сядзячага валейбола займаюцца ў спартыўнай зале мясцовага палітэхнікума.

Пры сустрэчы старшыня праўлення Барысаўскага аб'яднанага таварыства інвалідаў Антаніна Касьянава зазначыла:

— Асноўная задача фізкультурна-спартыўнага клуба "Гефест" — рэабілітацыя інвалідаў. І не толькі фізічная, а і маральна-псіхалагічная. Дзякуючы клубу людзі, абдзеленыя лёсам, могуць не толькі трэніраваць свае мышцы, а і сустракацца, гутарыць, падтрымліваць у цяжкую хвіліну адзін аднаго.

Праўленне таварыства наладжвае для інвалідаў святы, вечары адпачынку. Вось і нядаўна для дзяцей-інвалідаў у гарадскім Палацы культуры быў арганізаваны ранішнік, а для дарослых — канцэрт прафесійных артыстаў эстрады. Малыя атрымалі святочныя падарункі, набытыя зноў жа на сродкі спонсараў.

У ліку першых адгукнуліся на просьбу інвалідаў калектывы заводаў медыцынскіх прэпаратаў і хрустальнага, дрэваапрацоўчага і малочнага камбінатаў, камбіната хлебапрадуктаў, малых прадпрыемстваў "Канстанта", "Арфей", "Панацэя"... Малое прадпрыемства "Кантакт", як расказала Антаніна Іванаўна, падтрымлівае таварыства матэрыяльна на працягу апошніх трох гадоў, выдзеліла бясплатна аўтамашыну "Жыгулі" — для вырашэння неадкладных задач. Завод "Аўтагідраўзмацняльнік" дае, таксама бясплатна, аўтобус для падвозу інвалідаў у Мінск, на пратэзны завод.

Нялёгка жывецца сёння многім з нас, а інвалідам — удвая цяжэй. У час нашай размовы са старшынёй праўлення таварыства ў кабінет завітаў інвалід з дзяцінства Аляксандр Аўсейчык. Знявечаны цэрэбральным паралічам мужчына атрымлівае пенсію... 28 тысяч рублёў. Цяжка нават уявіць сабе, як можна на яе пражыць. А ў такім становішчы, падкрэсліла Антаніна Іванаўна, знаходзяцца многія інваліды з дзяцінства. Ім нават не прадугледжаны пераразлік пенсіі.

Добра яшчэ, што знаходзяцца сардэчныя людзі, якім неабыякавы чужы боль.

*Мікалай ЧАЛЕЙ,*
*г. Барысаў.*

# ПАД ДАМАШНІМ "АРЫШТАМ"

## вымушаны жыць многія нямоглыя мінчане

**Гэтага чалавека без ног я бачу ля Камароўкі даволі часта. Сядзіць нават у халоднае надвор"е, чакае міласціны. Мінчане, якія ўжо прызвычаіліся да жабракоў, усё ж падыходзяць да інваліда — кідаюць у шапку грошы ...**

Амаль 30 тысяч членаў налічвае Мінская гарадская арганізацыя інвалідаў. У яе структуры створаны 22 прадпрыемствы. Яны займаюцца вытворча-гаспадарчай дзейнасцю, каб забяспечыць занятасць абдзеленых лёсам грамадзян, атрымаць фінансавыя сродкі на сацыяльныя праграмы, на аздараўленне і адпачынак нямоглых людзей. Пры актыўным удзеле гэтай грамадскай арганізацыі быў распрацаваны праект Закона аб сацыяльнай абароне інвалідаў у Рэспубліцы Беларусь. Аднак прыняты закон у змененым выглядзе, большасць яго артыкулаў адлюстроўвае дэкларатыўную форму адносін дзяржавы да інвалідаў, накшталт "забяспечвае", "стварае", "гарантуе". Не трактуючы пры гэтым рэальны механізм забеспячэння, стварэння, гарантавання.

Улічваючы сітуацыю, прэзідыум Мінскай гарадской арганізацыі інвалідаў звярнуўся з "Адкрытым пісьмом" да прэзідэнта. У ім, у прыватнасці, адзначаецца: сёлета ў Мінску не ўдалося захаваць колькасць працуючых інвалідаў нават на ўзроўні 1993 года. Тых жа, хто мае патрэбу ў рабоце, 1.360 чалавек. Вельмі востра стаіць і пытанне па забеспячэнню інвалідаў зямельнымі ўчасткамі для садова-дачнага будаўніцтва. За 4 гады пастаянных "выбіванняў" гарадская арганізацыя атрымала 42 га /пры наяўнасці на 5.02.93 г. 2.229 чаргавікоў/.

Складаная сітуацыя і са стварэннем сеткі магазінаў для рэалізацыі тавараў па сацыяльна нізкіх цэнах. Да таго ж, тысячы інвалідаў-мінчан жывуць на верхніх паверхах дамоў без ліфтаў, што фактычна вымушае іх існаваць пад дамашнім "арыштам". І падобных праблем, якія патрабуюць хуткага вырашэння, — дзесяткі.

Звяртаючыся да прэзідэнта, прэзідыум Мінскай гарадской арганізацыі інвалідаў просіць яго ўзяць пад кантроль вырашэнне шэрагу пытанняў. Вось найбольш важныя з іх.

Забеспячэнне перадачы на баланс гарадской арганізацыі камбіната надомнай працы. Перагляд у бок зніжэння і ўстанаўленне адзінай для ўсіх прадпрыемстваў Беларускага таварыства інвалідаў сістэмы падаткаабкладання. Неабходна прадугледзець для прадпрыемстваў таварыства інвалідаў магчымасць атрымання дзяржаўнага заказу з фондавым забеспячэннем сыравінай і матэрыяламі, тэхналагічным абсталяваннем і транспартам. Забяспечыць прыняцце канчатковага рашэння аб прадастаўленні ўсім жадаючым інвалідам зямельных участкаў для садова-дачнага будаўніцтва ці вядзення падсобнай гаспадаркі ў лёгкадаступных месцах. Стварэнне сеткі спецыялізаваных магазінаў і пунктаў грамадскага харчавання для маламаёмных інвалідаў і састарэлых. Вырашэнне на працягу 1995 года праблемы пераабсталявання кватэр і пад"ездаў з устаноўкай дадатковых прыстасаванняў у дамах пражывання інвалідаў-калясачнікаў. Пры немагчымасці — выдзяленне ім іншага, больш зручнага жылля.

**Думаю, прэзідэнт, урад павінны пачуць голас інвалідаў. І тады ёсць надзея, што менш стане сярод нямоглых людзей жабракоў, часцей будзе перападаць ім лішні кавалак хлеба.**

*Наталля ТУМАР.*

■ Жыццё-быццё

# Усё студэнт можа. Калі яму патрэбны грошы

— Хто я? Студэнт.

— Вучышся, значыць.

— Ага. Вучуся... грошы зарабляць.

Неяк ужо няёмка ўспамінаць пра мізэрныя студэнцкія стыпендыі. Слёзы горкія, а не грошы. Але пагаварыць аб тым, як, а дакладней — на што студэнты жывуць, усё ж варта.

Першая «грашовая крыніца» — бацькі. Дапамагаюць сваім чадам як могуць. Але прасядзець усе гады навучання на бацькоўскай шыі цяжкавата. А калі ў сям'і не адзін студэнт — немагчыма.

Але ж студэнты — народ вынаходлівы неверагодна. І каб зарабіць грошы, прыдумваюць сродкі самыя розныя. Традыцыйныя студэнцкія халтуры (пагрузіць-разгрузіць і падобная цяжкая фізічная праца) становяцца ўсё менш папулярнымі. Цяпер выйграе той, хто мае камерцыйны талент. Рабіць свой маленькі бізнес можна прама ў інтэрнаце. Гандлююць тым, на што існуе пастаянны попыт: спіртным і цыгарэтамі. Як кажуць, у дзеянні закон папулярнага кінагероя: «Куй жалеза не адыходзячы ад касы». Трэба толькі ведаць, у якім пакоі жывуць мясцовыя гандляры.

Лягчэй старшакурснікам: іх, амаль спецыялістаў, могуць узяць на пастаянную працу. На стаўку ці на палову стаўкі. Шанцы значна павялічваюцца, калі студэнт мае прапіску ў тым горадзе, дзе вучыцца.

А што робяць тыя, каму не пашчасціла з прапіскай, і тыя, хто яшчэ ходзіць у «зялёных» пачаткоўцах? Бяруцца за ўсё што пад руку падвернецца. Можна, напрыклад, дапамагаць замежным сябрам — студэнтам з краін Афрыкі, Азіі, Лацінскай Амерыкі. За паслугу ў выглядзе курсавых і дыпломных работ плацяць у валюце. Можна паспрабаваць сябе ў якасці страхавога агента ці гандляра «гербалайфам». Стройныя дзяўчаты-студэнткі, што распаўсюджваюць гэты прадукт, — лепшая яму рэклама. Але ж «тонкасць, звонкасць і празрыстасць» гэтых дзяўчат, як вы разумееце, не вынік ужывання «гербалайфа».

Ездзяць яшчэ студэнты на поўдзень — садавіну збіраць. Праўда, цяпер білеты і пражыванне там каштуюць столькі, што зарабіць на гэтым немагчыма, яшчэ і ў накладзе застанешся. Таму разліку на заробак няма. Едуць не па грошы, — адпачыць. А зарабляюць паблізу сваёй альмаматэр. Што рабіць: круцішся. Бо не атрымліваецца ў сённяшніх студэнтаў па добрай студэнцкай запаведзі: «Лепей пераесці, чым недаспаць». Цяпер і недаясі, і недаспіш... А што да вучобы, дык на яе часу зусім не застаецца.

*Марына ЛАЗУКА,*
*студэнтка БДУ.*

■ Сумнавата...

# "ПЕРВОЕ АПРЕЛЯ — НИКОМУ НЕ ВЕРЮ!"

## Тое-сёе пра раздачу дзяржаўнага пірага ў выглядзе прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць"

***Спадзяюся, ведаеце? Ці, на благі канец, чулі? Яшчэ 1 красавіка "пайшоў працэс" раздачы імянных прыватызацыйных чэкаў "Маёмасць". Пайсці — пайшоў, але ж... Бедная дзяржава! Вось ужо восем месяцаў прыкладае яна неймаверныя намаганні, каб ашчасліваць сваіх грамадзян шляхам уручэння кожнаму кавалка ад "агульнага пірага" ў выглядзе пэўнай часткі сваёй маёмасці. Ледзь ці не сілком! Ва ўсякім разе, на мове афіцыйнай малюнак выглядае вось як.***

На 15 лістапада звярнуліся з заявамі ў тэрытарыяльныя камісіі ўсіх узроўняў 289.890 чалавек, або 22,5 працэнта ад колькасці жыхароў вобласці, якія маюць права на атрыманне чэкаў "Маёмасць". Толькі 3,5 працэнта з гэтай колькасці грамадзян "адважыліся" набыць сертыфікаты імянных прыватызацыйных чэкаў. Прычым у пакупку акцый да сярэдзіны лістапада ўкладзена ажно... 5,2 працэнта ад колькасці чэкаў, зацверджаных у аблвыканкоме.

Ці то ўсе мы з вамі людзі, мякка кажучы, неадукаваныя (калі карысць сваю ніяк пралічыць не ў стане)? Ці той кавалачак ад дзяржмаёмасці — ну надта ўжо сціплы? Ці сам "агульны пірог" — паняцце вельмі абцякальнае: не памацаеш, не адшчыкнеш — ці смачна?..

Дык чаму і яшчэ раз чаму? Людзі дасведчаныя разважаюць на гэты конт наступным чынам.

— Што датычыць тэрытарыяльных камісій, то з іх боку ніякіх затрымак няма, — сцвярджае спецыяліст першай катэгорыі аддзела чэкавай прыватызацыі Мінаблдзяржмаёмасці Галіна Леанідаўна Вяржбіцкая. — Мы выязджаем на месцы, правяраем. Людзі працуюць дакладна і зладжана. А вось актыўнасць насельніцтва сапраўды нізкая. Асабліва ў вёсцы. Мяркую, усё ўпіраецца ў хворую эканоміку, сціплыя фінансы. Што я перш за ўсё маю на ўвазе? Скажам, чалавек звярнуўся ў камісію, атрымаў пасведчанне. Значыць, ён ужо можа атрымліваць сертыфікат. Але для гэтага трэба заплаціць дзяржпошліну. Здаецца, невялікая яна — усяго 15 працэнтаў ад мінімальнай заработнай платы. Толькі ж вы ведаеце, як складана не надта ўжо заможнаму калгасніку ці, тым больш, зусім збяднеламу пенсіянеру з такой сумай развітацца!

Ну, няхай сабе і не пашкадуе чалавек гэтых грошай, атрымае сертыфікат. Тым больш што ехаць за ім нікуды не трэба: ва ўсіх буйных населеных пунктах ёсць філіялы ашчадкас... А што далей? Наступны "пункт праходжання" — раённае аддзяленне Ашчадбанка. Там на кожнага адкрыты спецыяльныя асабовыя чэкавыя рахункі. Такім чынам, можна ўкласці чэкі ў акцыі. Але на гэты раз абавязкова трэба ехаць у райцэнтр. Куды транспарт, як правіла, ходзіць дрэнна. Ды грошай шкада. І, галоўнае, што з усяго гэтага выйдзе?

Вось і вырашае чалавек: не-е, пачакаю яшчэ, пагляджу, што далей будзе...

Сярод "аўтсайдэраў", паводле слоў Г.Вяржбіцкай, — Бярэзінскі, Барысаўскі, Салігорскі раёны. А ў Мінскім, Пухавіцкім, Уздзенскім, Вілейскім попыт на імянныя прыватызацыйныя чэкі "Маёмасць", наадварот, на дзіва актыўны. І дзе ўжо народ спяшаецца ва ўласнікі, дык гэта на Лагойшчыне. Якія ж "агіткі" прыдумалі мясцовыя ўлады на фоне "ўсеагульнага нігілізму"?

— "Зброя" супраць пасіўнасці, пэўна, такая ж, як і паўсюдна: выступаем на старонках раённай газеты, выязджаем у сельсаветы, правяраем аб"явы... — расказвае галоўны спецыяліст па эканоміцы Лагойскага райвыканкома Жанна Эдуардаўна Бірыч. — У прынцыпе, наколькі мне вядома, старшыні сельсаветаў заходзяць ледзь ці не ў кожны дом — з мэтай растлумачыць яго гаспадарам, што да чаго. Мо гэта і спрацоўвае...

Не менш займаюцца тлумачальнай работай і тэрытарыяльныя камісіі ў Бярэзінскім раёне, мяркуе начальнік упраўлення па эканоміцы райвыканкома Г.Лыскавец.

— А вось "геапалітычнае" размяшчэнне нашага раёна ў сэнсе блізкасці да гарадской цывілізацыі — зусім няўдалае, — лічыць Генадзь Сцяпанавіч. — Што да Мінска, што да Магілёва... І адтуль, і адгэтуль нібы з Месяца весткі далятаюць. Чыгункі ў нас няма, а аўтобусныя зносіны самі ведаеце колькі цяпер каштуюць.

Куды ўкласці чэкі? Вось яшчэ праблема! У нас перапрацоўчыя прадпрыемствы — на мясцовай сыравіне. Тым, хто бліжэй да Мінска, укласці чэкі куды прасцей. Вось і атрымліваецца, што на нашай, ледзь ці не глухой цяпер, перыферыі стаць уласнікамі імкнуцца толькі тыя, у каго дзеці ў Мінску. А гэта, без перабольшання, адзінкі.

Праўда, за апошнія два тыдні народ на дзіва актывізаваўся. Ва ўсякім разе да тых васьмі соцень, якія падалі заявы да сярэдзіны лістапада, далучыліся яшчэ дзевяць дзесяткаў чалавек. Яно і зразумела: увесну садзілі ўраджай, улетку дагледзялі, восенню збіралі. Раён у нас сельскагаспадарчы: не было людзям часу і ўспомніць пра тыя акцыі. Цяпер крыху заварушыліся.

І ўсё ж такі большасць, не сакрэт, мяркуе так: ну, куплю я тыя чэкі, акцыі здабуду. Грошы патрачу, дурную — даруйце! — работу зраблю. А раптам усё гэта лопне, нібы мыльная бурбалка? Колькі ўжо разоў падманвала дзяржава нашага брата! Маўляў, сёння прынялі закон — заўтра і адмяніць могуць...

Падвешанасць улады, нестабільнасць у эканоміцы, няўстойлівая палітычная сітуацыя — вось, на маю думку, асноўныя прычыны. Скажам, створаны ў краіне інвестыцыйны фонд... А інфармацыі аб ім — з камароў нос! Таксама — прычына.

Чалавек жыве толькі сённяшнім днём. Пагадзіцеся: гэта — небяспечная тэндэнцыя...

***Ну цяпер, спадзяюся, ведаеце? Яшчэ першага красавіка ашчадбанкі пачалі выдаваць імянныя прыватызацыйныя чэкі "Маёмасць". На працягу васьмі месяцаў дзяржава, падчас дарэмна, імкнецца выцягнуць дрэмлючае ў патаемных глыбінях нашых душ пачуццё ўласніка. "Дрымучыя вы людзі", — шкадуюць нас з усіх бакоў. Маласвядомыя, маўляў. А мо не гэта галоўнае? Проста дату для высакароднай справы дзяржава падабрала няўдала. Памятаеце: "Первое апреля — никому не верю"?***

***Так ужо і нікому? М...да-а... І праўда — небяспечная тэндэнцыя!***

*Інеса ПЕТРУСЕВІЧ.*

# ЗАБЫТЫЯ КАРМЫ

Нядзельны лістападаўскі дзень выдаўся сонечным, з невялікім марозікам. Вырашыў прайсціся ў лес, падыхаць свежым паветрам. Выбраў дарогу на вёску Ніўкі.

Крочылася бадзёра. Але хутка лес скончыўся, уперадзе паказалася калгаснае поле.

У канцы лета неаднаразова праходзіў міма яго, калі дабіраўся ў гэтыя мясціны па ягады і грыбы. На полі раслі грэчка і кармавая сумесь — рапс, авёс і гарох. Пад крупяной культурай — участак вялікі, распасціраўся за пагорак. А вось кармасумессю было занята гектары тры.

Уласна кажучы, чаму — «было»? Сумесь і цяпер стаіць на тым полі. Не ўбралі яе хлебаробы калгаса «8 Сакавіка». «Забыліся» яны засціртаваць ці адвезці на жывёлагадоўчую ферму і салому грэчкі — шматлікія кучы яе так і засталіся ляжаць на ўсёй плошчы. Няўжо такія каштоўныя кармы сёлета не патрэбны гаспадарцы?

*Генадзь ХОЦЫН.*
*Лагойскі раён.*

Крымінальны сюжэт

# НОЧ НА ТРАІХ

**У народзе гавораць: п"яніцамі не нараджаюцца, імі становяцца. А злачынцамі? Як здараецца, што чалавек раптам пераступае дапушчальную мяжу? Спецыялісты сцвярджаюць, што ў аснове кожнага злачынства ляжыць матыў. Ён — першы штуршок. Але ж, відаць, не адразу з"яўляецца гэты самы матыў. Спакваля. Пад уплывам нейкіх знешніх і унутраных прычын.**

Гартаю старонкі абвінаваўчага заключэння па крымінальнай справе Міхаіла Варонскага (тут і далей імёны і прозвішчы зменены). Спрабую ўлавіць матывы, якія штурхнулі яго на забойства двух чалавек. З адным ён сябраваў, другога да той трагічнай ночы ў вочы не бачыў. Не, няма тут ліха закручанага дэтэктыўнага сюжэта. Работнікі міліцыі аператыўна выйшлі «на след». Хутка Міхаіл ужо даваў паказанні ў кабінеце следчага.

За некалькі дзён да здарэння ён разам са сваім сябрам Віктарам сядзеў у кафэ. Непадалёку за столікам бавілі час знаёмыя дзяўчаты Наташа і Лена. Было ўжо позна. Кафэ закрывалася. І кампанія выйшла на вуліцу. Перакінуліся словам-другім. І, як паказаў пазней на следстве Варонскі, Наташа пачала да яго прыставаць. Міхаіл адрэагаваў даволі дзіўна. Дастаў нож і пачаў размахваць ім перад тварам дзяўчыны. Тая напалохалася і спрабавала закрыцца рукой. Лязо паласнула па далоні...

Нож — немалаважная дэталь у справе Варонскага. Дастаткова націснуць кнопку, і лязо маланкава вылятае вонкі. Калі гэтую штуку прыставіць да чалавека, а потым націснуць кнопку...

Нож Варонскі купіў у адным з гарадскіх «камкоў». Заўсёды насіў яго з сабою ў кішэні. Дзіўна, але з ім ён адчуваў сябе смялей і больш упэўнена. Прыемна было ўзважваць яго ў руцэ, назіраць, як выскоквае лязо.

У наступны вечар М.Варонскі і В.Белікаў наведаліся на дыскатэку. Грымела музыка, пасярод залы тапталіся мясцовыя хлопцы і дзяўчаты. Нічога асаблівага. Міхаілу стала сумна. Далёка за поўнач танцы скончыліся, і ўсе сталі разыходзіцца. Пайшлі і Міхаіл з Віктарам. Па дарозе вырашылі правесці да дома Лену. У ліфце ўзнік інцыдэнт. Міхаіл спрабаваў затрымаць дзяўчыну, але сябра перашкодзіў. Рука аўтаматычна слізганула ў кішэню. Дзяўчына не адрэагавала на гэты жэст. Белікаў правёў яе да дзвярэй кватэры. Вярнуўся назад і спакойна сказаў:

— Канчай дурыць з нажом.

— Не твая справа, — агрызнуўся Варонскі.

— Мая — не мая... Але такім спосабам нічога не даб"ешся.

Міхаіл адчуў, як хваля злосці пачынае захліствадь яго.

— Заткніся!

Віктар зірнуў на сябра і хуценька стаў спускацца па прыступках уніз. Міхаіл пайшоў услед. Нечакана Віктар развярнуўся і ўдарыў Міхаіла па твары. Той сцярпеў. Але, калі ўжо аказаліся на вуліцы, Міхаіл звыклым рухам дастаў нож, націснуў кнопку... Віктар быццам наткнуўся на нейкую нябачную перашкоду. Войкнуў і кінуўся бегчы. Міхаіл дагнаў яго, калі той ужо ляжаў на зямлі. Нахіліўся і тут адчуў, як хтосьці ўзяў яго за плячо. Міхаіл зірнуў: перад ім стаяў незнаёмы чалавек. І злосць, якая ўжо была ўлеглася, раптам зноў захліснула яго. Нож усё яшчэ быў у руцэ. Незнаёмец хацеў нешта сказаць, але замест слоў з яго грудзей вырваўся крык. Міхаіл запомніў вочы гэтага чалавека, поўныя здзіўлення, страху і адчаю. За першым ударам былі другі, трэці... Незнаёмец кінуўся ўцякаць, забег у першы выпадковы пад"езд. Варонскі дагнаў ахвяру. І новыя ўдары пасыпаліся на яе...

Следства кваліфікавала дзеянні М.Варонскага як наўмысныя і ўчыненыя і з асаблівай жорсткасцю. А матывы — адпомсціць за знявагу, сцвердзіць сваё «я». Ці не занадта дарагая цана: смерць двух чалавек і доўгі тэрмін за кратамі?

*Мікалай ЖУЧКО.*

